№ 70 (4015)

8 верасня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***



**АФІЦЫЙНА**

## Шасцёрка

10 верасня Цэнтрвыбаркам плануе абвясціць, хто стане кандыдатам у прэзідэнты на маючых адбыцца выбарах.

Дакументы на рэгістрацыю падалі нават тыя, хто, як дакладна вядома, не сабраў неабходнай колькасці подпісаў выбаршчыкаў за сваё вылучэнне, – Віктар Цярэшчанка і Жанна Раманоўская. Навошта яны гэта робяць, калі відавочна, што кандыдатамі ў прэзідэнты зарэгістраваны не будуць? Напэўна, каб лішні раз засвяціцца ў СМІ, працягнуць сваю “хвіліну славы”. Так, паводле звестак ЦВК, дастатковую колькасць сапраўдных галасоў за сваё вылучэнне сабралі толькі чатыры прэтэндэнты. У Віктара Цярэшчанкі тэрытарыяльныя камісіі прызналі сапраўднымі толькі каля сямі тысяч подпісаў. Жанна Раманоўская здала ў выбаркамы ўсяго... 780 подпісаў. І тым не менш гэтыя персанажы па-ранейшаму спрабуюць прыцягнуць да сябе ўвагу.

Такім чынам, у ЦВК паступілі заявы ад шасці чалавек, якія хочуць стаць кандыдатамі ў прэзідэнты Беларусі. Гэта Таццяна Караткевіч, Сяргей Гайдукевіч, Мікалай Улаховіч, Аляксандр Лукашэнка, Віктар Цярэшчанка і Жанна Раманоўская.

**ДАРЭЧЫ**

Частка здадзеных за Віктара Цярэшчанку подпісаў была наўмысна сфальсіфікавана. Пра гэта паведаміла старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына.

Паводле заявы старшыні ЦВК, частка подпісаў, якая была прадстаўлена ініцыятыўнай групай Віктара Цярэшчанкі, з’яўляецца не проста недакладнай, а наўмысна сфальсіфікаванай. *«Адна рэч, калі ў подпісах даты прастаўлены не ўласнаручна. Але калі подпіс скапіраваны на ксераксе альбо з’яўляецца подпісам неіснуючай асобы, калі подпісы выкананы за грамадзян іншымі асобамі, гэта вельмі сур’ёзнае правапарушэнне»,* – патлумачыла Лідзія Ярмошына.

**ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ**

## Разам!

5 верасня ў Львове беларуская зборная па футболе саступіла камандзе Украіны з лікам 1:3 і страціла ўсе шанцы на выхад у фінальную частку Еўра-2016. Але матч у пэўным сэнсе стаў гістарычным і беспрэцэдэнтным. Бо футбол – гэта ўсяго 90 хвілін гульні, а братэрства народаў – гэта назаўсёды.

Балельшчыкі каманд, якія яшчэ пару гадоў таму біліся да крыві і ў гэтым супрацьстаянні іх нават АМАП не заўсёды мог супакоіць, зараз дэманструюць сапраўднае братэрства, салідарнасць і падтрымку адзін аднаго. Перад пачаткам матча яны разам здалі кроў для пацярпелых у зоне антытэрарыстычнай аперацыі, потым – прайшлі сумесным маршам да арэны, на якой праходзіла гульня, а падчас матча абменьваліся патрыятычнымі лозунгамі і “крычалкамі”. “Слава Украіне!” – крычаў беларускі сектар фанатаў, “Жыве Беларусь!” – адказвалі ўкраінцы. “Трымайцеся, браты!” – такі банер вывесілі нашы балельшчыкі, а ўкраінцы ў сваю чаргу адказалі банерам з “Пагоняй”...

Прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка пасля гульні падзякаваў балельшчыкам за такія шчырыя праявы салідарнасці. Гэты матч быў нечым значна большым, чым проста спорт. Гэта была дэманстрацыя сапраўднага братэрства. Шчырага, вялікага і непераможнага!

Гэта было высакародна і прыгожа. Да слёз.




## Шум на пустым месцы

*Адгудзелі забітыя бітком трыбуны 35-тысячнай “Арэны-Львоў”, якая літаральна патанала ў бел-чырвона белых і жоўта-блакітных сцягах, і “загудзеў” інтэрнэт. Маўляў, на ўкраінска-беларускай мяжы лютуюць айчынныя памежнікі, якія быццам бы з асаблівай пільнасцю даглядаюць беларускіх балельшчыкаў…*

Спачатку інфармацыя з’явілася на інтэрнэт-старонцы беларускага фанацкага партала. Адзін з балельшчыкаў напісаў: *“Спачатку памежнік запытаў, ці не з футбола мы едзем, пасля чаго перапісаў нумарныя знакі машыны”.*

Яшчэ адзін заўзятар паведаміў: *“Ехалі сёння праз Гарадзішча* (памежны пераход у Брэсцкай вобласці. – **Аўт.**). *Трэслі грунтоўна і доўга. Для запалохвання стаялі два памежнікі ў поўнай экіпіроўцы. Пыталіся пра футбол, шукалі сімволіку, але не знайшлі”.*

Пазней у інтэрнэце з’явілася фота з памежнай беларускай станцыі Гарынь: на пероне стаяць узброеныя людзі ў камуфляжы.

Адным словам, навіны інтэрнэт-прасторы сведчылі нібыта пра тое, што ў шэрагі беларускіх памежнікаў залезлі адэпты “русского мира” і на беларуска-ўкраінскае братэрства заўзятараў яны гатовы адказаць напоўніцу. Але...

Па шчырасці, нам так і не ўдалося знайсці ніводнага заўзятара, які быў бы ссаджаны з цягніка ці не прапушчаны пры ўездзе ў Беларусь на ўласным аўто. Гэтак жа, як і не ўдалося пацвердзіць сведчанні аб тым, што нашы памежнікі прама ў цягніках быццам бы складалі нейкія спісы тых, хто вяртаўся з футбола.

Напрыклад, балельшчык Уладзімір Говар, які вяртаўся з матча ў Львове, распавёў карэспандэнту “Народнай Волі” наступнае: “*Вяртаўся з футбола цягніком Чарнаўцы–Магілёў. На беларускай мяжы быў у панядзелак ноччу. Памежнікі і мытнікі паводзілі сябе карэктна, ніякіх прэтэнзій не мелі, ніякіх пытанняў не задавалі”.*

На шум, які ўзняўся вакол вяртання беларусаў са Львова, абсалютна спакойна адрэагаваў і Дзяржпагранкамітэт нашай краіны. Так, прэс-сакратар гэтага ведамства **Аляксандр Цішчанка** адзначыў, што ніводны балельшчык, які вяртаўся з Украіны ў Беларусь, на мяжы не зведаў ніякіх нязручнасцяў: *“Гэта шум на пустым месцы. Усё было куды больш проста і прыстойна”.*

Ён нагадаў, што дадатковыя меры бяспекі заўжды прымаюцца пры перасоўванні вялікай колькасці заўзятараў, фанацкіх груповак на буйныя спартыўныя мерапрыемствы. *“Гэта сусветная практыка”*, – адзначыў ён.

Ад сябе дададзім: у сённяшніх умовах было б дзіўна, калі б ахову беларуска-ўкраінскай мяжы не ўзмацнілі. Усё ж такі ў нашых паўднёвых суседзяў вядуцца баявыя дзеянні, па тэрыторыі Украіны “гуляе” шмат зброі. Зразумела, што нашы памежнікі павінны прымаць усе меры, каб гэтае “багацце” не трапіла ў Беларусь. Тым і тлумачыцца больш пільны наглядз пасажыраў, што вяртаюцца з суседняй краіны.

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

**ВІЗІТ**

## З надзеяй з Еўропы

У Мінск прыехала дэлегацыя Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы.

Паводле інфармацыі прэс-службы ПАСЕ, мэтай візіту, які працягнецца па 10 верасня, з’яўляецца ацэнка перадвыбарнай кампаніі і палітычнага клімату напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў.

У дэлегацыю, якую ўзначальвае прадстаўніца Арменіі Арпінэ Хаванісян, уваходзяць дэпутаты Ёнас Гунарсан (Швецыя), Марылуіза Бек (ФРГ), Рэа Дэнэмэч (Турцыя), Андрэй Гунько (ФРГ) і дакладчык ПАСЕ па сітуацыі ў Беларусі Андрэа Рыгоні (Італія).

На 8–9 верасня запланаваны сустрэчы дэлегацыі са старшынямі абедзвюх палат Нацыянальнага сходу, міністрам замежных спраў Уладзімірам Макеем і старшынёй Цэнтрвыбаркама Лідзіяй Ярмошынай. Дэлегацыя з ПАСЕ таксама сустрэнецца з асноўнымі ўдзельнікамі прэзідэнцкай выбарчай кампаніі або іх прадстаўнікамі, лідарамі апазіцыі, кіраўніком Белтэлерадыёкампаніі, прадстаўнікамі СМІ, няўрадавых арганізацый і дыпламатычнага корпусу.

Нагадаем, што дэлегацыя ПАСЕ ў складзе 11 чалавек таксама возьме ўдзел у назіранні за тым, як пройдуць прэзідэнцкія выбары 11 кастрычніка.

**ГОНАР НАЦЫІ**

## Святланін дзень



За месяц да абвяшчэння лаўрэатаў самай прэстыжнай прэміі ў свеце – Нобелеўскай прэміі – беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч лідзіруе ў спісе букмекераў на атрыманне ўзнагароды ў галіне літаратуры.

Брытанская букмекерская кампанія Ladbrokes працягвае прымаць стаўкі. На дадзены момант у катэгорыі «Нобелеўская прэмія ў галіне літаратуры» першым радком пазначана Святлана Алексіевіч.

Вось як выглядае першая дзясятка на Ladbrokes за месяц да рашэння Шведскай каралеўскай акадэміі:

1.Святлана Алексіевіч (Беларусь) – 5/1
2.Харукі Муракамі (Японія) – 6/1
3.Нгугі Ва Тхіёнг’а (Кенія) – 7/1
4.Філіп Рот (ЗША) – 8/1
5.Джойс Кэрл Оўтс (ЗША) – 12/1
6.Адуніс (Сырыя) – 16/1
7.Ісмаіл Кадарэ (Албанія) – 16/1
8.Юн Фосэ (Нарвегія) – 20/1
9.Ко Ун (Паўднёвая Карэя) – 20/1
10.Пэтэр Гандке (Аўстрыя) – 20/1.

Нагадаем, што Святлана Алексіевіч апошнія два гады нязменна ўваходзіла ў тройку фаварытаў букмекерскіх кампаній на атрыманне прэміі.

**ВЫБАРЫ: ХРОНІКА**

## Фальстарт?

Баранавіцкі праваабаронца Сяргей Гоўша накіраваў скаргу ў Цэнтральную выбарчую камісію, у якой указвае, што яшчэ не зарэгістраваны кандыдаты ў прэзідэнты, а ў Баранавічах ужо пачалася агітацыя за дзеючага прэзідэнта.

Праваабаронца адзначае, што ў афіцыйнай газеце Баранавіцкага гарвыканкама “Наш край” №65 ад 2 верасня 2015 года змешчана інфармацыя аб пачатку грамадска-культурніцкай акцыі “Мы – разам”, якую распачало Беларускае тэлебачанне. У сваім артыкуле “Беларусь, якую мы выбіраем” гарадская газета паведамляе пра канцэрт папулярных беларускіх артыстаў, якія выступілі перад жыхарамі і гасцямі горада.

Сяргей Гоўша звяртае ўвагу ЦВК, што намеснік старшыні аблвыканкама Мікалай Токар, вітаючы артыстаў і гледачоў перад канцэртам, назваў цяперашнюю палітыку Аляксандра Лукашэнкі сацыяльна-эканамічнай творчасцю і асабліва падкрэсліў, што сёння краіна знаходзіцца напярэдадні важнейшай сацыяльна-палітычнай падзеі – выбараў прэзідэнта Беларусі. У сваім выступленні чыноўнік выказаў упэўненасць, што жыхары Брэстчыны аддадуць свой голас за захаванне самых галоўных каштоўнасцяў: міру, стабільнасці і незалежнасці. Праваабаронца Сяргей Гоўша лічыць, што гэта непрыхаваная агітацыя за дзеючага прэзідэнта, якая распачалася датэрмінова. Грамадскі актывіст просіць Цэнтральную выбарчую камісію прыняць меры да парушальнікаў закона.

**СКАНДАЛ**

## Правакацыя супраць мовы?

Учора зранку інтэрнэт-прастору ўзарваў фрагмент дакумента “Формы и методы реализации молодежной политики в городе Гродно», апублікаваны на сайце сярэдняй школы №22 гэтага абласнога цэнтра. Звяртаў на сябе ўвагу параграф паперчыны, пазначаны лічбай 7.

Гаворка там ішла пра “неконструктивные молодежные организации», якія дзейнічаюць у горадзе. У іх лік былі ўключаны “Маладыя дэмакраты”, “Моладзь БНФ”, “Школа маладых журналістаў” і іншыя. Грамадская дзейнасць гэтых суполак была пазначана як шкодная з’ява, накіраваная выключна на тое, каб атрымліваць фінансаванне з Захаду.

Для сучасных рэалій – нічога дзіўнага, сенсацыйнага. Але далей дакумент утрымліваў такую бязглуздзіцу, што нават у нашым грамадстве, дзе родная мова не без папушчальніцтва ўлад знаходзіцца ў заняпадзе, гэта выклікала абурэнне. Больш за тое, недаўменне: каму спатрэбіліся размовы пра беларускі нацыяналізм?!

Цытую:

***“В последнее время получило активное развитие новое направление среди неконструктивных организаций – популяризация белорусского языка, традиций и обрядов, презентации книг. Таким образом данные организаторы пытаются подменить сокровенные для белорусов ценности и подать обществу всю белорусскую культуру только с узкого националистического угла зрения. Таким ярким образцом является деятельность курсов “Мова Нанова”, раздача вышиванок и т.д.”.***

Праўда, калі гэты “опус” з’явіўся ў інтэрнэце, менш як праз гадзіну скандальны абзац з дакумента знік. А яшчэ праз некаторы час з сайта школы дакумент увогуле быў выдалены цалкам.

Каму належыць аўтарства гэтай дзіўнай паперы? Як яна апынулася на сайце сярэдняй навучальнай установы?

Завуч па пазакласнай рабоце СШ №22 Гродна **Таццяна Бурба** сцвярджае: гэта камп’ютарны вірус.

– Усе на вушах, – шчыра прызналася яна ў тэлефоннай размове з карэспандэнтам “Народнай Волі”. – Адкуль толькі нам ужо не тэлефанавалі! Вірус трапіў па электронцы, а адказваць – школе. Мы ўжо атрымалі па шапцы.

**– З аддзела адукацыі тэлефанавалі?**

– І не толькі.

**– Дык усё ж такі як дакумент трапіў на сайт школы?**

– Як мы зараз паглядзелі, гэта прыйшло на сайт па электроннай пошце як метадычная рассылка да Года моладзі. Паднялі ўсю перапіску. Аказваецца, быў вірус, і ўся ўваходная дакументацыя да мая не захавалася. Таму адкуль прыйшоў гэты ліст, сказаць не магу.

**– Ліст незразумела ад каго атрымалі, але перш, чым паставіць на сайт, чыталі яго?**

– У тым жа і справа, што гэта такі хітры вірус, што ліст аўтаматычна загрузіўся на сайт.

Цяпер нам адусюль тэлефануюць. Было загадана прыбраць увесь артыкул. Там спачатку ідзе нармальны тэкст з правільнымі статыстычнымі дадзенымі, і раптам – гэты абзац. Тое, што там напісана, поўная бязглуздзіца. Незразумела, адкуль што ўзялося... Цяпер ідзе разбіральніцтва. Будзем далей высвятляць, адкуль нам такі “дакумент” трапіў.

Цікава, ці высветляць? Бо ўсё ж такі спасылацца на нейкі полтэргейст у такіх справах – гэта зусім несур’ёзна.

**ДА ВЕДАМА**

### Чаму вучыць «Мова Нанова»?

“Мова Нанова”, што ўзгадваецца як “неконструктивная организация», – бясплатныя курсы беларускай мовы, існуюць са студзеня 2014 года і маюць дзяржаўную рэгістрацыю “Сацыяльна-культурная ўстанова развіцця беларускай мовы і культуры “Мова Нанова”.

Як сцвярджаюць заснавальнікі курсаў, штотыдзень заняткі наведвае каля 650 студэнтаў. Курсы дзейнічаюць у Мінску, ва ўсіх абласных гарадах, а таксама ў Астраўцы, Бабруйску, Баранавічах і Маладзечне. З’яўленне курсаў тлумачыцца проста: “Час прызнацца, што нам пара вучыць беларускую мову нанова! Такія прыклады – калі народ адраджаў паўзабытую мову – ёсць у гісторыі, і яны натхняюць!»

Лепшую ацэнку курсаў, зразумела, даюць тыя, хто іх наведваў. Напрыклад, на пачатку гэта года кіраўнік прыватнай сеткі паліўных станцый «А-100» **Ірына Валадзько** на адным з сайтаў у сваёй аўтарскай калонцы прызналася: *“Вось ужо амаль паўгода мы ладзім для супрацоўнікаў бясплатныя курсы беларускай мовы разам з таленавітымі выкладчыкамі курсаў «Мова Нанова», і я не зманю, калі скажу, што каля 70 працэнтаў нашых аператараў ужо стараюцца размаўляць на роднай мове”. “Я хачу адзначыць дзіўную тэндэнцыю: «родная мова» зрабіла нешта асаблівае – сёння да нас пачынае прыходзіць больш кліентаў”*, – прызналася Валадзько.

Хіба гэта не канструктыўны прыклад стаўлення да свайго, роднага, да сваіх каранёў? Хіба гэта не высакародная справа?

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

**МОЛДОВА**

## «Долой олигархов! Верните украденный миллиард!»



Под такими лозунгами на улицы молдавской столицы вышли десятки тысяч человек, возмущенные коррупцией в высших эшелонах власти и бездействием правительства в решении насущных вопросов в одной из беднейших европейских стран.

Тысячи участников акции протеста требуют отставки президента и досрочных выборов.

К вечеру, как сообщает Молдавская служба Радио «Свободная Европа», манифестанты установили около 30 палаток и заявили, что не уйдут, пока власти не начнут выполнять их требования.

Митинг организован Гражданской платформой «Достоинство и правда».

По оценкам полиции, на Площади Великого национального собрания находилось около 60 тысяч кишиневцев. В принятой ими резолюции митинга содержится требование досрочных выборов, отставки президента Николае Тимофти и всех руководителей органов правопорядка и юстиции.

**НАДВОР’Е**

## Вось і восень

На бягучым тыдні ў Беларусі чакаецца няўстойлівае надвор’е. Як паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя **Дзмітрый Рабаў,** у першай палове тыдня пад уздзеяннем халоднага паветра з Балтыкі тэмпература будзе на 1–3 градусы ніжэй за норму.

У аўторак 8 верасня амаль па ўсёй Беларусі пройдуць дажджы, удзень месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ўначы складзе 6–11 градусаў вышэй за нуль, удзень – 12–18. У сераду, 9 верасня, кароткачасовыя дажджы ў дзённыя гадзіны прагназуюцца на большай частцы тэрыторыі нашай краіны. Уначы будзе 4–9 цяпла (месцамі – да 11), удзень – 12–17.

З чацвярга ночы стануць больш халоднымі, а ўдзень крыху пацяплее. У начныя гадзіны 10 верасня чакаецца 4–9 градусаў са знакам плюс, у дзённыя – 13–18. Магчымы кароткачасовыя дажджы, але толькі месцамі.

**ТРЕВОЖНО**

## Вооруженный мятеж в Таджикистане

*Таджикистан оказался в центре внимания мировых СМИ: в республике в очередной раз произошел вооруженный мятеж и в настоящее время проводится силовая операция по поимке рассеявшихся в горах боевиков.*

По информации МВД страны, в ночь на 4 сентября было совершено два вооруженных нападения – на центральный аппарат Минобороны страны в Душанбе и ОВД города Вахдат, что в 20 километрах от таджикской столицы. Были убиты милиционеры, захвачен большой арсенал оружия и боеприпасов.

В тот же день МВД заявило, что эти атаки были организованы и совершены под руководством замминистра обороны республики, генерал-майора Абдухалима Назарзода (известного как Ходжа Хаким) – члена Партии исламского возрождения Таджикистана и бывшего сторонника Объединенной таджикской оппозиции (ОТО), реинтегрированного в состав Вооруженных сил на основании мирного соглашения 1997 года. За несколько часов до этого заявления Назарзода был освобожден от занимаемой должности с формулировкой «за совершение преступлений». Бывшему замглавы Минобороны и части его сообщников после нападений удалось скрыться в Ромитском ущелье, что в 50 километрах восточнее Душанбе.

Пока известно, что от рук мятежников погибли как минимум девять сотрудников органов внутренних дел и еще шестеро получили ранения. Потери со стороны бандгруппировки составили 17 человек убитыми, 39 боевиков задержаны, изъято более 500 единиц оружия и боеприпасов. Некоторые из сообщников Назарзода добровольно сложили оружие. Среди них – младший брат экс-замминистра Мирзохаёт Назаров, который отделился от группировки и сдался правоохранительным органам.

В воскресенье по каналам таджикского телевидения МВД сообщило о задержании еще двух офицеров Минобороны Таджикистана – за «содействие и причастность» к вооруженным нападениям: замкомандира по политико-воспитательной работе десантно-штурмовой бригады, подполковника Мустафо Назарова и старшего инспектора управления финансов и бюджета этого ведомства, майора Насима Юсуфова. По данным МВД, эти люди знали о планируемых нападениях, но не сообщили об этом властям.

Президент Таджикистана Эмомали Рахмон ответил на мятеж визитом в город Вахдат. Он заложил камень в строительство нового здания ОВД вместо обстрелянного и заверил жителей, что операция по задержанию оставшихся на свободе мятежников завершится в ближайшие дни и все они «ответят перед законом». Своим визитом в эпицентр событий президент как бы дал понять, что ситуация в стране стабильная и находится под контролем властей. Как сообщают душанбинцы, внешне в Душанбе все выглядит спокойно и ничто, кроме усиленных нарядов милиции, не указывает на то, что в нескольких десятках километров от столицы идет силовая спецоперация по поимке беглых боевиков.



**ТЕМ ВРЕМЕНЕМ**

Обострение ситуации в Таджикистане прокомментировал Секретариат Организации Договора о коллективной безопасности (ОДКБ), который назвал происходящее в стране «бандитскими разборками» и внутренним делом Таджикистана. На 15 сентября в Душанбе намечен саммит этой организации, членом которой, напомним, является и Беларусь.

ФОТАФАКТ



# «Я люблю свой герб, люблю свой сцяг»

На вуліцах Мінска з'явіўся аўтамабіль, які звяртае на сябе ўвагу не толькі прыгожымі формамі, але і нацыянальна-гістарычнай арыентаванасцю гаспадара. Бел-чырвона-белы MINI Countryman з гербам «Пагоня» на даху – першы і, бадай, адзіны транспартны сродак у Беларусі, які выразна супрацьпастаўляецца арміі прыхільнікаў «георгіеўскай» ідэалогіі.

Беларускі нацыянальны характар прадукту брытанскага аўтапрама «прышчапіў» Ілля Прохараў – блогер, супрацоўнік аўтамабільнага холдынга «Атлант-М». Кажа, што ідэя ўвекавечыць гістарычную сімволіку менавіта такім чынам узнікла даўно, але рэалізавалася толькі цяпер:

– Гадоў пяць таму ў мяне была іншая MINI: звыклая мадэль Cooper, зялёнага колеру, таксама з белым дахам. Мы з жонкай паехалі на злёт «міні-купераў» у Львоў, і адзін з моманта нас прасіў зачараваў. Гэта калі машыны шыхтуюцца і ёсць магчымасць залезці на высокі будынак, адтуль усё сфатаграфаваць. Гэта было нешта! Справа ў тым, што ў нас з сабой быў бел-чырвона-белы сцяг, мы паслалі яго на дах, і зверху глядзелася вельмі прыгожа. І калі ў мяне з'явіўся другі аўтамабіль – MINI Countryman, пытанне было вырашана. Тым больш што ён такога прыгожага колеравага спалучэння – бел-чырвона-белы. То бок сама па сабе ўзнікла ідэя нанесці на дах нацыянальную сімволіку – і не проста сцяг, а з гербам «Пагоня». Я люблю свой герб, лічу яго нацыянальным багаццем. Я люблю свой сцяг...

ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

# Крызіс...

*НДЭІ Мінэканомікі чакае зніжэння ВУП на 2,8% у 2015 годзе.*

Валавы ўнутраны прадукт Беларусі можа скараціцца сёлета на 2,8% у параўнанні з 2014 годам, прагназуюць спецыялісты Навукова-даследчага эканамічнага інстытута (НДЭІ) Міністэрства эканомікі.

Эксперты нагадваюць, што ў першым паўгоддзі паніжальны ўплыў на ВУП аказалі прамысловасць, будаўніцтва, транспарт і сувязь, аптовы гандаль. Нязначны станоўчы ўклад у ВУП унеслі толькі сельская гаспадарка і рознічны гандаль.

*«У другім паўгоддзі 2015 года дзеянне негатыўных фактараў і наяўных тэндэнцый шмат у чым захаваецца і, магчыма, узмацніцца. Па выніках студзеня–снежня 2015 года чакаецца скарачэнне аб'ёмаў рэальнага ВУП на 2,8 працэнтнага пункта да ўзроўню папярэдняга года, і тэмпы змянення ВУП, разлічаныя вытворчым метадам, складуць 97,2%»*, – мяркуюць спецыялісты НДЭІ Мінэканомікі, прагназныя ацэнкі якіх апублікаваны ў апошнім нумары «Экономического бюллетеня», які выдаецца інстытутам.

Нагадаем, паводле звестак за студзень–ліпень, ВУП Беларусі знізіўся на 4% (пасля зніжэння на 3,3% за першае паўгоддзе). Нацыянальны статыстычны камітэт растлумачыў, што адмоўная дынаміка ВУП у ліпені была абумоўлена больш позним перыядам пачатку сельскагаспадарчых работ па ўборцы ўраджаю.

Як паведамлялася раней, афіцыйны прагноз, зацверджаны беларускімі ўладамі на 2015 год, прадугледжвае рост ВУП на 0,2–0,7%. У той жа час міжнародныя фінансавыя арганізацыі (у прыватнасці Сусветны банк) прагназуюць, што ВУП Беларусі ўвогуле знізіцца ў 2015 годзе на 3,5%. Гэта сведчыць толькі пра адно: эканоміка ў крызісе, а значыць, краіна і ўсе мы становімся бяднейшымі.

ПАМЯЦЬ

# Уладзімір Кішкурна: in memoriam

За тры дні да трагічнага здарэння на трасе Мінск–Брэст мы сустрэліся на Паўночных могілках, на пахаванні Веры Чуйко, жанчыны, якая ішла наперадзе ў кагорце адраджэнцаў канца 1980-х – пачатку 1990-х гадоў. Уладзімір Кішкурна быў надзвычай засмучаны, але праз ягоны хмарны позірк не-не ды прасвечвала яго непераможная ўсмешка. "Нас не зломіш. Лявон, я еду праз колькі дзён трохі падлячыцца, а потым сустрэнемся ў мяне дома: я рамонт зрабіў..."



Капітальны дом Кішкурнаў на Смаргаўскім тракце перажыў шмат што: даходзіла і да штурму яго АМАПам, але заўсёды над ім лунаў у небе бел-чырвона-белы сцяг... Разам з Уладзімірам нас трымалі і ў міліцэйскім пастарунку: у час кампаніі байкоту чарговых псеўдавыбараў мы былі "павязаны" проста на праспекце Машэрава (які цяпер "пераможцы" над Беларуссю назвалі ў свой гонар...). Я *так* не ўмеў размаўляць з міліцэйскімі начальнікамі, як ён: "Што ты лезеш? Забірай сваю туфту і паказвай яе каму хочаш – толькі не мне! Ідзі адсюль і нікому не паказвайся!"

Ён, здаецца, умеў рабіць цуды: няма магчымасці нешта зрабіць, а ён кажа: "Зробім! Зможам!" Менавіта ён вывозіў цела Васіля Быкава з Бараўлянскай бальніцы, каб апярэдзіць "добразычліўцаў" з чаргінцоўскага ведамства. Менавіта ягоная машына развозіла дадому вязняў Акрэсціна і Жодзіна пасля ўладных правакацый на выбарах 2006-га і 2010 гадоў. "Лявон! Не рабі складанасцяў – усё зробім і вырашым!" – гэтыя словы я чуў ад яго не раз.

У Курапацкім народным мемарыяле сотні крыжоў. З дзясятак уласнаручна паставіў Уладзімір Кішкурна. У тым ліку з надпісам – свайму дзеду. Які загінуў немаведама дзе ад рук сталінскіх бандытаў...

А цяпер яго няма. Зрабілася пуста. Эх, Валодзя, на каго ж ты нас пакінуў?

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

## Валянціна БЫКАВА:

# «Замуж выйшла позна – усё кавалераў выбірала...»

*Сястра сусветна вядомага пісьменніка Васіля Быкава Валянціна жыве ў вёсцы Ваўчо Ушацкага раёна. З родных Бычкоў яна пераехала да мужа шмат год таму. Гаспадарка ў пенсіянеркі невялікая – некалькі баразён бульбы, кошка і клумбы з кветкамі ля дома. Прызнаецца, што вельмі любіць дагледзаць за рамонкамі і флоксамі.*

*«Народная Воля» завітала ў госці да сястры Васіля Быкава.*



### Чарга кавалераў

Валянціна Уладзіміраўна сустракае мяне на вуліцы і запрашае ў хату. Унутры чыста і ўтульна. Шмат розных кветак, фотаздымкі і вялікі стос газет. У асноўным – незалежныя выданні.

– *Газеты чытаю абавязкова,* – распавядае Валянціна Уладзіміраўна. – *Калі спёка моцная была, дык днём з хаты не выходзіла. Тое-сёе яшчэ сама магу рабіць. Ежу гатую самастойна, кветкі падвязваю, паліваю... Яны мяне любяць, а я іх. Калі ўжо цяжкая работа, то сацыяльны работнік дапамагае.*

Валянціна Быкава пакутуе на зрок. Некалькі год таму ў Мінску ёй зрабілі аперацыю. Але з часам бачыць стала ўсё горш і горш. Нягледзячы на ўзрост, Валянціна Уладзіміраўна садзіць некалькі баразён бульбы. З сямі баразён выкапала ўжо пяць.

– *Вады прынесці ці дроў зімой мне ўжо дапамагаюць,* – кажа Валянціна Уладзіміраўна. – *У краму ці аптэку я не хаджу. Што папрашу, тое і прынясуць...*

Заказы на магазін сястра вядомага пісьменніка робіць невялікія. Купляе малочныя прадукты, хлеб, часам нешта мясное. Валянціна Уладзіміраўна гаворыць, што цяпер у крамах можна купіць што заўгодна, але галоўная ежа для яе – малако і бульба. Невялікай пенсіі ў два мільёны, паводле слоў Валянціны Быкавай, на жыццё хапае...

– *Раніцай бульбы звару, кубак малака ці кефіру вып'ю,* – распавядае Валянціна Уладзіміраўна. – *Моднае адзенне я даўно не купляю. Вядома, у маладосці нешта набывала, і Васіль шмат чаго мне прысылаў.*

**– Напэўна, прыхільнікі ў чаргу выстройваліся?** – цікаўлюся ў Валянціны Уладзіміраўны, гледзячы на фотаздымак прыгожай брунеткі.

– *Кавалераў хапала* (смяецца)*. І мясцовыя былі, і нават з горада прыязджаў адзін. Я ўсё выбірала, каб па душы быў.*

**– А што не падабалася ў хлопцах?**

– *Адзін невысокі, другі непрыгожы* (смяецца)... *Напэўна, кахання не было. Таму замуж выйшла позна – усё кавалераў выбірала.*

### Нежаночая праца

У Ваўчо з Бычкоў Валянціна Уладзіміраўна пераехала да мужа Аляксандра. Узгадвае, што замуж выйшла ўжо ў 45 год. Да вяселля працавала рахункаводам у калгасе. Пасля іх аб'яднання прыйшлося пайсці на палявыя работы. Акрамя гэтага дапамагала бацькам трымаць уласную гаспадарку.

– *Па-рознаму прыходзілася,* – узгадвае Валянціна Уладзіміраўна. – *Як цямнела, дадому вярталася. Бацькі ўжо старыя былі, шмат хварэлі, але трымалі карову, свіней...*

Пасля смерці таты Валянціна Уладзіміраўна, маці і малодшы брат Мікалай практычна засталіся без гаспадара. Паводле слоў Быкавай, Мікалай быў вельмі хваравіты і ад гэтага пакутаваў усё жыццё. Гаспадарка звалілася на плечы Валянціны Уладзіміраўны.

– *Сама касіла, секла дровы, агарод дагледала,* – распавядае Валянціна Быкава. – *У той час ніхто дровы ж не выпісваў. Усё самі рабілі. Памятаю, пілы кароткай не было і прыходзілася мне пілаваць доўгай пілой, якая на дваіх... Прывыкчалася неяк, а што рабіць было?! На карову накасіць трэба было. Нагараваліся, канешне...*

Пасля пераезду ў Ваўчо да мужа працы менш не стала. Праўда, Аляксандр загадаў, каб жонка звольнілася з калгаса і займалася толькі хатняй гаспадаркай. Трымалі кароў, свіней, кур...

Як узгадвае Валянціна Уладзіміраўна, Аляксандр ужо быў жанаты першым шлюбам. Але жонка забрала дваіх дзяцей і з'ехала да другога ў Смаленскую вобласць.

Першыя гады ўсё было добра. Жылі разам з дачкой Аляксандра ад першага шлюбу. Дзяўчына збегла ад маці і айчыма і вярнулася ў Ваўчо. Завесці сваіх дзяцей у Валянціны і Аляксандра не атрымалася.

– *Памятаю, сваты прыехалі да нас у Бычкі,* – распавядае сястра Васіля Быкава. – *Адзін з іх ну вельмі ўжо Шурку расхвальваў. Чалавек ён сапраўды вельмі прыгожы і рукасты быў. І шафёрам мог, і зваршчыкам умеў працаваць. Я яшчэ падумала: рознае бывае ў жыцці, што з жонкай першай разышліся. Аднаго сваты не сказалі – выпіць вельмі ён любіў! Пастаянна яму бутэлька патрэбна была...*

З мужам Валянціна Уладзіміраўна пражыла больш за 10 год. Пасля яго смерці засталася жыць у хаце адна. Прызнаецца, што дагэтуль падтрымлівае добрыя адносіны з дачкой Аляксандра, у якой ужо свая сям'я. З роднымі пляменнікамі – сынамі Васіля Быкава – Валянціна Уладзіміраўна зносін не мае.

### З успамінамі пра Васіля

Зараз у Ваўчо жывуць у асноўным пенсіянеры. Моладзь у вёсках не затрымліваецца. Валянціна Уладзіміраўна прызнаецца, што часам адной робіцца сумна. Удзячна знаёмым журналістам Глебу Лабадзенку і Сяргею Шапрану, якія тэлефануюць, пішуць лісты і прыязджаюць.

Час ад часу, калі ніхто не наведвае, навальваюцца ўспаміны.

– *Калі я замуж выйшла, то напісала Васілю ў Гродна,* – узгадвае Валянціна Уладзіміраўна. – *Маўляў, маці засталася жыць адна ў Бычках (потым яе сюды перавезлі). У той час машыну цяжка было знайсці. Васіль прыехаў да Ушачаў, а адсюль ужо пешшу да Бычкоў. Цераз луг, праз кусты, па снезе ледзь дабраўся да хаты. Ён нас вельмі любіў. Калі ў Балгарыі служыў, пасылкі, грошы, лекі бацькам часта адпраўляў.*

*А бацькоў, нават калі ўжо дарослы быў, увесь час называў татулька і мамачка. Тата паліў, і Васіль яму цыгарэты модныя заўсёды прысылаў. Таўстыя такія, з палец...*

Валянціна Уладзіміраўна адзначае, што ёй прыемна бачыць цікавасць да творчасці старэйшага брата. Узгадвае: калі Васіль Быкаў служыў у войску і пісаў лісты, то амаль у кожным нагадваў, што сястры трэба хадзіць у школу і вучыцца. Валянціна Быкава не раз брала ўдзел у розных імпрэзах, прысвечаных творчасці Васіля Быкава.

– *І ў Мінску я пра Васіля распавядала, і ў Полацку,* – гаворыць Валянціна Уладзіміраўна. – *Вельмі чытаць брат любіў. Кніг у бібліятэцы набярэ і чытае. Бацька яму кажа: "Васька, кладзіся спаць!.."А ён усё роўна чытае. Кнігі пра прыгоды вельмі любіў*

Пасля вайны, узгадвае Валянціна Быкава, яна разам з сяброўкай паехала працаваць у Падсвілле. На Ушаччыне ў тыя часы панаваў голад. Адтуль дзяўчына шмат пісала старэйшаму брату. Атрымаўшы доўгачаканы адпачынак, Васіль Уладзіміравіч накіраваўся да сястры...

– *Памятаю, мы з сяброўкай ноччу ў канторы дзяжурылі,* – узгадвае Валянціна Уладзіміраўна. – *Чуем: нехта ў дзверы грукае. Адчынілі, глядзім – а на парозе чалавек у ваенным шынялі. А сяброўка як закрычыць: "Валя, дык гэта ж Васіль!" І мы бягом да яго абдымацца і цалавацца! А ён кажа: "Вы, напэўна, галодныя?" Завёў у мясцовы рэстаран. Накарміў, і нават выпілі мы крыху ўсе разам. А потым глянуў на мае ногі (а я ўсю зіму ў туфлях адхадзіла – абутку на зіму ніякага не было), адчыніў свой чамадан і дастаў мне боты хромавыя* (выцірае слёзы)*. Вельмі добры быў.*

На развітанне Валянціна Уладзіміраўна распавядае пра мясцовае жыццё. На лёс сястра вядомага беларускага пісьменніка не скардзіцца. Адзінае, ад чаго апошнім часам пакутуе пенсіянерка, – гэта высокі ціск і болі ў сэрцы. Прызнаецца, што на лекі грошай трацціца больш, чым на прадукты.

– *Але што рабіць – узрост,* – гаворыць Валянціна Уладзіміраўна. – *Жыву памаленьку. Трымаюся.*

**– Шмат газет у вас у хаце, сочыце за падзеямі ў краіне?** – яшчэ раз цікаўлюся ў Валянціны Уладзіміраўны.

– *Тэлевізар гляджу рэдка. Раней Радыё Свабода слухала. Але зламаўся мой прымач, і майстар сказаў, што ўжо нельга адраманціраваць. Васіль свае творы там чытаў. Любіла слухаць...*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

АДКРЫЦЦЁ СЕЗОНА

## Уладзімір САВІЦКІ:

# «Дзе яшчэ дзіця пачуе родную беларускую мову, як не ў тэатры?»

*12 верасня Тэатр юнага гледача адкрывае новы сезон – нарэшце ў сваім родным будынку.*

– За тыя амаль шэсць гадоў, што тэатр быў на рэканструкцыі, вырасла цэлае пакаленне, якое ўвогуле не ведае, дзе знаходзіцца наш тэатр, – *гаворыць мастацкі кіраўнік ТЮГа* **Уладзімір Савіцкі.** – І нам трэба прыкласці максімум намаганняў, каб выхаваць уласнага гледача.

Апошнія гады нам даводзілася працаваць у даволі складаных умовах. Гэта ўплывала і на ўзровень спектакляў, і на трупу. Усё ж такі шэсць гадоў для творчага лёсу акцёра – нямала. І ў некаторых гэтыя гады былі проста выкраслены. Таму што ахапіць усю трупу працай ва ўмовах невялікіх і выязных спектакляў было практычна немагчыма.

Цяпер наша асноўная задача – якасны рэпертуар. Кажучы казённай мовай, цяпер для нас галоўнае – стварэнне высокамастацкіх, прафесійных спектакляў для дзяцей і дарослых. Добры рэпертуар – гэта класіка. Як нацыянальная, так і сусветная.

*Паводле слоў Савіцкага, спектаклі ў Тэатры юнага гледача будуць ісці на беларускай мове. Гэта прынцыпова.*

– Я прыйшоў у тэатр, калі тут ішлі спектаклі і на рускай мове, і на беларускай, – *каментуе Уладзімір Канстанцінавіч.* – Калі я паслухаў усё гэта, то ні роднай мовы не пачуў, ні рускай нармальнай. Тэатр юнага гледача стварaўся як нацыянальны тэатр для дзяцей. Паверце: калі на сцэне адбываецца нешта цікавае, гэта глядзяць на любой мове. Некалі японцы ў Мінск прывозілі свайго "Аладзіна" на японскай – усе разумелі. І не адарваца было! І нават калі ў сям'і гавораць па-руску, то дзе яшчэ дзіця пачуе прыгожую родную мову, як не ў тэатры?

*Дарэчы, у тэатры нават склалі слоўнічак для дзяцей, якія ўпершыню трапілі ў беларускі тэатр.*

– Мы выпісвалі словы, на наш погляд, самыя незразумелыя для гледача і давалі рускі пераклад, – *расказвае загадчык літаратурна-драматычнай часткі ТЮГа* **Жанна Лашкевіч**. – І гэтыя слоўнічкі былі добра ўспрыняты і дзецьмі, і дарослымі.

*Новы сезон Тэатра юнага гледача адкрыецца «Сіняй птушкай» Марыса Метэрлінка. Спектакль разлічаны на дзяцей ад 10 год.*

– Я лічу, што ў такім тэатры, як наш, павінны быць адзін-два вялікія спектаклі, каб акцёры хоць два разы на месяц сустракаліся, – *і жартам, і ўсур'ёз кажа Савіцкі.* – Таму што раней два разы на месяц сустракаліся ў касе, калі за заробкам прыходзілі. А цяпер грошы на картку пераводзяць, дык бывае, што некаторыя артысты і па два месяцы адзін аднаго не бачаць, а потым сустракаюцца і палохаюцца...

*Да Новага года ў афішы Тэатра юнага гледача з'явіцца спектакль для дзяцей па кнізе «Чараўнік Смарагдавага горада». У бліжэйшых планах таксама «Дон Кіхот» па п'есе Булгакава.* «Я лічу, зараз гэтая п'еса Булгакава вельмі актуальная», – *адзначае Савіцкі.*

**Марына КОКТЫШ.**

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ

# Товары секонд-хэнд и быстропортящиеся продукты избегнут экспертизы

*Министерство здравоохранения дало разъяснения, касающиеся действия постановления Совета министров №666. В минувшем номере «Народной Воли» эксперты, говоря о возможных последствиях от действия этого постановления, замечали: страна уже через месяц может увидеть пустые или полупустые полки и астрономические ценники на все, сделанное не в Беларуси.*

Разъяснения Минздрава вселяют надежду, что подобного не случится.

Так, согласно документу, санитарно-гигиеническое заключение не требуется для продукции, ввезенной на территорию Беларуси до 27 августа 2015 года.

Кроме того, *«проведение государственной санитарно-гигиенической экспертизы в отношении продукции, прошедшей в установленном порядке государственную регистрацию на соответствие требованиям технических регламентов Таможенного союза 021/2011, 029/2012 в период с 1 июля 2013 года до 15 февраля 2015 года (тонизирующие напитки, пищевые добавки, технологические вспомогательные средства и т.д.), а также на алкогольную продукцию, сопровождающуюся свидетельствами о государственной регистрации, оформленными до 1 июля 2013 года, не требуется».*

В Минздраве также подчеркивают, что санитарно-гигиеническая экспертиза продукции зарубежного производства осуществляется до выпуска ее в реализацию, то есть для ввоза продукции на территорию Беларуси санитарно-гигиеническое заключение не требуется.

Целый перечень товаров сможет избежать экспертизы. Например, не попадают под действие постановления товары секонд-хенд, беспошлинной торговли и гуманитарная помощь. Продукты с ограниченными (до 30 дней) сроками годности и (или) требующие специальных температурных условий хранения (+6 градусов Цельсия и ниже) также проверять не станут. Но это не касается продукции, в отношении которой одним из государств – членов Евразийского экономического союза введены временные санитарные меры.

Не будут отдавать на экспертизу свои товары и ипэшники, работающие на рынках и в торговых центрах «в связи с отсутствием возможности идентификации продукции из-за отсутствия документов, подтверждающих ввоз». А также не требует экспертизы продукция, ввозимая субъектом хозяйствования для собственных нужд (то есть для промышленной переработки).

ЧУЛІ?

# У Музей беларускай дзяржаўнасці цяпер зможа трапіць кожны

Пачынаючы з 7 верасня для наведвання Музея сучаснай беларускай дзяржаўнасці не патрэбны папярэдні запіс.

Як паведамляюць «Мінск-Навіны», цяпер для наведвання музея патрэбны толькі дакумент, які сведчыць асобу. Арганізаваным групам (да 30 чалавек) неабходна ўнесці звесткі пра сябе ў табліцу, размешчаную на сайце музея, не пазней як за дзень да наведвання.

Нагадаем, што Музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці быў адчынены ў 2012 годзе. Ён размяшчаецца ў Мінску на вуліцы К.Маркса, 38, пад'езд №4.

SOS!

# Чаму «растала» золата?

Залаты запас Нацыянальнага банка Беларусі па выніках першага паўгоддзя 2015 года скараціўся на 0,1 тоны і на 1 ліпеня склаў 36,4 тоны.

Аб гэтым сведчаць дадзеныя галоўнага банка краіны. У 2014 годзе залаты запас Нацбанка Беларусі вырас на 1,5 тоны і на 1 студзеня 2015 года складаў 36,5 тоны. Залаты запас Нацыянальнага банка Беларусі вылічваецца ў тонах і ўключае золата (пераважная доля), а таксама серабро, плаціну і паладый. За 2013 год залаты запас вырас на 1,7 тоны. За 2012 год залаты запас вырас у эквіваленце на 1,6 тоны.

СКАНДАЛ

# Неприятности после победы

Шесть гандболистов хорватской команды после воскресной победы над белорусским клубом попали в Брестскую областную больницу.

В воскресенье вечером команда «Загреб» из Хорватии провела в Бресте матч SEHA-лиги (региональный европейский турнир по гандболу) против Брестского гандбольного клуба им.Мешкова и победила со счетом 24:21. После этого хорваты отправились в местную гостиницу «Беларусь». А утром в понедельник шесть спортсменов были доставлены в областную больницу с температурой и признаками пищевого отравления.

– Ребята обследуются, пока о диагнозе говорить рано, у них температура, – уточнили в больнице. – Это может быть как пищевое отравление, так и какая-то инфекционная патология или вирус.

Со стороны белорусской команды хорватам оказывают содействие.

– Да, несколько игроков отравились при питании в гостинице «Беларусь». Наш клуб оказывает необходимое содействие по взаимодействию с больницей и по дипломатическим каналам для возможного продления визы в связи с задержкой, – прокомментировал ситуацию начальник отдела маркетинга и связей со СМИ брестского клуба Иван Караичев.

Директор ресторана гостиницы «Беларусь» Оксана Андреева держится оптимистично.

– Я могу показаться самоуверенной, но мы уже 4 года кормим ребят, и никогда ничего не случалось. Вчера на обед они ели филе цыпленка, на ужин буженину. После этого 14 человек уехали из гостиницы. Куда? Я не знаю, пусть разбираются те, кому положено. Сейчас у нас работает санстанция. Мы ждем результатов, но я не представляю, чтобы что-то подобное могло случиться по нашей вине, – рассказала Оксана Андреева.



БЕЛАРУСЬ–ЕС

## Гернат ЭРЛЕР:

# «Выбары стануць лакмусавай паперкай для ацэнкі шанцаў на перазагрузку адносін Беларусь–ЕС»



*На мінулым тыдні Беларусь наведаў каардынатар федэральнага ўрада Германіі па міжграмадскім супрацоўніцтве з Расіяй, краінамі Цэнтральнай Азіі і "Усходняга партнёрства" Гернат Эрлер.*

Візіт доўжыўся адзін дзень, але быў вельмі насычаны. Нямецкі дыпламат паспеў сустрэцца з міністрам замежных спраў **Уладзімірам Макеем** (ён назваў гэту гутарку грунтоўнай), прадстаўнікамі апазіцыі (першай на сустрэчу была запрошана **Таццяна Караткевіч**, але яна, спаслаўшыся на справы, не прыйшла на сустрэчу), палітолагамі і незалежнымі журналістамі.

Свой дыялог з прадстаўнікамі СМІ Гернат Эрлер пачаў з таго, што растлумачыў: падставай для тэрмінова арганізаванага візіту ў Мінск стала вызваленне 22 жніўня палітвязняў.

*«Мы доўгія гады фармулявалі нейкае пэўнае патрабаванне, яно было звязана з палітвязнямі*, – растлумачыў чыноўнік. – *Яны сапраўды былі перашкодай для нармалізацыі адносін паміж нашымі краінамі. Гэта прывяло нават да асаблівага статусу Беларусі ў рамках "Еўрапейскага партнёрства". Беларусь з'яўляецца адзінай краінай, якой з боку Еўрапейскага Саюза нават не было зроблена прапановы аб асацыяцыі з ЕС. І калі пасля гэтага шматгадовага патрабавання яно ўсё ж такі выканана, разумна не проста маўчаць у якасці рэакцыі, а пацвердзіць, што рух пачаўся ў правільным накірунку».*

Паводле слоў прадстаўніка Германіі, вызваленне палітвязняў – крок, які *«адкрывае магчымасці для таго, што ў міжнародным плане называюць перазагрузкай адносін»*. Аднак, заўважыў ён, *«хацелася б, каб гэты першы крок меў працяг»*. І падкрэсліў, што вырашальнай падзеяй для магчымасці перазагрузкі адносін ЕС–Беларусь стануць маючыя адбыцца прэзідэнцкія выбары ў Беларусі, менавіта яны стануць "*лакмусавай паперкай для ацэнкі шанцаў на перазагрузку*" гэтых адносін.

Гернат Эрлер нагадаў, што да 30 кастрычніка павінна быць прынята рашэнне па пытанні аб санкцыях ЕС у дачыненні да Беларусі. *«Калі ацэнка выбараў будзе станоўчай, будзе адкрыты шлях у накірунку прыпынення санкцый і пачатку палітычнага дыялогу па сутнасці"*, – адзначыў дыпламат. І ўдакладніў, што можа атрымаць Беларусь у рамках гэтага дыялогу.

*«Мы гатовы прыйсці да супрацоўніцтва па цэлым шэрагу накірункаў, якія ўяўляюць цікавасць для Беларусі*, – рэзюмаваў Гернат Эрлер, – *у тым ліку па перамоўным працэсе аб палягчэнні візавага рэжыму, магчымасці правядзення ў наступным годзе інвестыцыйнай канферэнцыі, аказанні падтрымкі Беларусі па ўступленні ў Сусветную гандлёвую арганізацыю».*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

НА ЗАМЕТКУ

# Как будут проводиться теледебаты кандидатов в президенты

Теледебаты проводятся на телеканале «Беларусь 1» Белтелерадиокомпании 3 октября 2015 года. Начало теледебатов в 17.00.

Для теледебатов отводится 60 минут эфирного времени, если количество желающих участвовать в них кандидатов в президенты будет менее пяти, и 90 минут эфирного времени, если их будет пять и более.

Кандидат в президенты, желающий участвовать в теледебатах, не позднее 18 сентября 2015 года подает в Белтелерадиокомпанию письменное заявление. В случае отказа в дальнейшем от участия в теледебатах кандидат в президенты не позднее чем за день до их проведения информирует об этом Белтелерадиокомпанию.

Теледебаты проводятся при участии в них не менее двух кандидатов в президенты.

Кандидат в президенты вправе уполномочить для участия в теледебатах доверенное лицо. Неучастие кандидата в президенты в теледебатах не влечет увеличения объема эфирного времени, предоставляемого кандидату бесплатно.

Порядок проведения теледебатов и ведущий (ведущие) определяются Белтелерадиокомпанией.

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ



Віталь ГАРБУЗАЎ

# Пасядзелкі на цвіках

Многае з таго, што адбываецца ў Беларусі цягам апошніх 20 гадоў, нагадвае змест вядомага анекдота. Некалькіх чалавек розных нацыянальнасцяў прымушалі ўседзець на крэсле, у якое быў убіты цвік. Абурыліся ўсе, акрамя памяркоўнага беларуса, які паёрзаў-паёрзаў на крэсле дый вымавіў: "А можа, так і трэба?"

Гэты "барадаты" анекдот успомніўся напярэдадні чарговай электаральнай кампаніі пад назвай "прэзідэнцкія выбары".

Напэўна, не стану ў вачах чытачоў вялікім прарокам, калі скажу: яе вынік быў вядомы яшчэ да старту. У кастрычніку бягучага года пераможцам будзе аб'яўлены кандыдат, які безальтэрнатыўна кіруе краінай з 1994 года – 21 год.

Ці варта яшчэ раз разважаць пра хібы ў выбарчым заканадаўстве, у якім не прадугледжана норма аб уключэнні ў склад выбарчых камісій УСІХ узроўняў прадстаўнікоў КОЖНАГА кандыдата, не адменена датэрміновае галасаванне, няма допуску незалежных назіральнікаў да рэальнага падліку галасоў?..

Ці варта яшчэ раз даводзіць тэзу пра бездапаможнасць беларускай апазіцыі, якая за гэты час так і не змагла ўзняць шырокія масы, каб разам патрабаваць унясення змен у Выбарчы кодэкс?.. (Тым больш што зараз беларускую апазіцыю, дакладней тыя парэшткі, што ад яе засталіся, не папракае толькі лянівы. Не выключаю, што сваркі-разборкі паміж прадстаўнікамі апазіцыі ў рэшце рэшт прывядуць да яе самазнішчэння.)

Упэўнены: палітычныя перамены рана ці позна ў Беларусі адбудуцца. І прынясуць іх у краіну не апазіцыйныя структуры, а звычайныя людзі, мы з вамі. І здарыцца гэта толькі тады, калі большасці з нас, вобразна кажучы, надакучыць сядзець на цвіках – то бок цярпець. Калі ў рэшце рэшт у нашых галовах пераможа здаровы сэнс.

Асабіста мне здаровы сэнс падказвае, што знаходжанне аднаго і таго ж, няхай самага вартага і самага працавітага, чалавека на пасадзе кіраўніка краіны цягам 20 з лішнім гадоў – гэта зашмат.

21 год – дастатковы тэрмін для таго, каб рэалізаваць усе свае палітычныя праграмы і памкненні. Карацей, гэтага было дастаткова для паляпшэння жыццёвага ўзроўню беларусаў.

Ці палепшылася нашае жыццё так, як нам тое абяцалі?

Выступаючы з праграмным зваротам да беларусаў напярэдадні свайго чацвёртага тэрміну, кіраўнік дзяржавы казаў: "*Памер заработнай платы ў Беларусі да 2015 года павінен наблізіцца да 1 тысячы долараў у эквіваленце"*.

Згодна з апошнімі афіцыйнымі дадзенымі, сярэдні заробак у Беларусі за ліпень бягучага года склаў 458 долараў у эквіваленце. Гэтая лічба была агучана яшчэ да чарговай дэвальвацыі нацыянальнай валюты – на сённяшні дзень даходы беларусаў меншыя за названую суму і яшчэ далей ад запаветнай тысячы "зялёных".

Яшчэ ў 2011 годзе Лукашэнка запэўніваў, што цэны больш расці не будуць, *"бо ім няма куды расці"*. Але кошты не прыслухаліся да яго слоў.

У сапраўды дэмакратычнай краіне ў такой сітуацыі кіраўнік дзяржавы разам з Кабінетам міністраў павінен быў бы звярнуцца да людзей: "Прабачце, я не справіўся, няхай спрабуюць іншыя..." Прэзідэнт – гэта не цар і не Бог, гэта менеджар, наняты народам. І калі менеджар не спраўляецца, народ можа і павінен яго звольніць і наняць іншага.

А што ж маем мы? Наш нязменны "менеджар" ва ўсіх бедах вінаваціць каго заўгодна, толькі не сябе. Надвор'е, чыноўнікаў, "народзец", за які яму бывае сорамна. Памятаеце, як ён абураўся: "*Як мне было сорамна за беларускі народ, калі я прыехаў у Казахстан і ўсе ў мяне пытаюцца, што ў вас там адбываецца?"*.

І на гэтым фоне беларусы, нібыта нацыя мазахістаў, працягвае абіраць аднаго і таго ж кіраўніка.

Насуперак здароваму сэнсу за яго галасуюць студэнты, у якіх былі адабраны льготы, галасуюць інваліды, значная частка якіх таксама засталася без падтрымкі дзяржавы, галасуюць пенсіянеры, гатовыя душыцца на ўласных агародах, каб сэканоміць хоць мізэрную капейку на "чорны дзень", галасуюць маладыя сем'і, якія дзесяцігоддзямі стаяць у чэргах на атрыманне хоць нейкага жылля, галасуюць беспрацоўныя, якія зараз павінны плаціць за права не працаваць, галасуюць маладыя мамы, месячнай дапамогі якіх ледзь хапае на памперсы для дзіцяці, галасуюць рабочыя, якіх скарачаюць-звальняюць у мэтах аптымізацыі вытворчасці, галасуюць прадпрымальнікі, задушаныя падаткамі... Хіба ж гэта лагічна?

Мы жывём бы ў тым анекдоце. Жывём з нямым пытаннем на вуснах: "А можа, так і трэба?" Дык можа, усё ж такі прыйшоў час закончыць пасядзелкі на цвіках і пачаць у рэшцэ рэшт людзьмі звацца?..

ЧУЛІ?

# Дэпардзьё пераязджае ў Беларусь?



Па крайняй меры менавіта пра гэта ён заявіў у інтэрв'ю Le Figaro. *«Цяпер я жыву ў Італіі. І бліжэйшым часам пераеду ў Беларусь, буду жыць сярод сялян, таму што там прыгожа і прэзідэнт добры чалавек»,* – цытуе выданне французскага акцёра.

Нагадаем, што Жэрар Дэпардзьё наведаў Беларусь у ліпені гэтага года ў рамках работы над фільмам «Нармандыя – Нёман», а таксама сустрэўся з Аляксандрам Лукашэнкам, які правёў для Дэпардзьё экскурсію па сваёй рэзідэнцыі «Азёрны» ў Астрашыцкім Гарадку, паказаў сельскагаспадарчыя прылады і павучыў француза касіць ручной касой. Напэўна, акцёру ўсё гэта вельмі спадабалася. Аднак ці надоўга?

Два гады таму Жэрар Дэпардзьё атрымаў расійскі пашпарт і заявіў пра поўную падтрымку расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна і сваю гатоўнасць «памерці за Расію». Аднак жыве Дэпардзьё не ў Расіі, а ў Бельгіі, куды ўцёк ад высокіх французскіх падаткаў «на багацце", ці ў Італіі.

РЕГИСТРАТУРА

# «Выполняются операции, которые еще 10 лет назад считались абсолютно невозможными»

*Министр здравоохранения* ***Василий Жарко*** *рассказал об успехах онкологической службы страны.*

Развернутое интервью глава ведомства дал изданию "Беларусь сегодня". Говорил министр в основном об успехах. Пообещал, что платного посещения поликлиник не будет (*"Как можно ограничивать доступность амбулаторной помощи?")*, что в 2016 году будет решен вопрос с электронными рецептами *("причем во всех регионах"),* а в 2017-м – электронные карточки пациентов появятся во всех поликлиниках и стационарах. Но особое внимание Василий Жарко уделил тому, как работает онкологическая служба страны:

– Уже четверть века, как в Беларуси наблюдается рост заболеваемости злокачественными новообразованиями. И если, скажем, в 1990 году число вновь зарегистрированных больных составляло 26.257, то в 2014-м – 45.887. По прогнозам специалистов, уже к 2030 году эта цифра может достичь 78.000. Но нужно понимать: раньше статистика не была достоверной, потому что не было современной диагностики, и многие онкологические больные уходили из жизни, так и не узнав свой диагноз. Сейчас же мы научились выявлять опухоли на ранней стадии, отсюда и рост статистики. Проблемами онкологии занималась недавно закончившаяся Государственная комплексная программа, и результаты налицо. Наши врачи занимают лидирующие позиции не только в СНГ, но и в Восточной Европе. Благодаря высокой квалификации персонала, модернизации хирургического оснащения, а также развитию анестезиологического обеспечения ежедневно выполняются операции, которые еще 10 лет назад считались абсолютно невозможными. Далеко вперед шагнула и лучевая терапия. Представьте, за счет объемного планирования, стереотаксической (очень точной) радиохирургии теперь можно подвести прицельно к опухоли максимально возможную дозу излучения с минимальным его воздействием на окружающие здоровые ткани. Что касается скрининга злокачественных опухолей, то, хоть это понятие вошло в медицинский обиход недавно, мы уже видим ощутимый эффект: все больше случаев, когда болезнь выявляется на самом раннем этапе. А это в свою очередь позволяет онкологам расширить спектр малоинвазивных и лапароскопических операций. Впрочем, нам нужно еще стопроцентно убедиться, что пилотный скрининг, например, ПСА, эффективен – на это надо несколько лет. Тогда и будем думать о расширении программы на всю страну. Надо сказать, очень большие надежды возлагаются сегодня на открытие молекулярно-генетической лаборатории и ПЭТ-центра на базе РНПЦ онкологии и медицинской радиологии имени Н.Н.Александрова. Это позволит вывести диагностику, мониторинг, индивидуальный подбор химиотерапии и лечение целого ряда злокачественных опухолей на качественно новый уровень. ПЭТ–центр вообще будет крупнейшим в Восточной Европе. Поражает его масштабность: все по последнему слову. И с первого дня там закипит работа: кадры готовы.

МЫСЛИ ВСЛУХ



Сергей НЕРОВНЫЙ

# О хороших и плохих ВОЖДЯХ

*«Если хотите построить социализм, то выберите страну, которую не жалко».*

**Бисмарк**

В предыдущем номере мы остановились на том, что маршал Победы и министр обороны СССР Г.Жуков после того, как дважды спас новоявленного вождя трудящихся масс Хрущева от политического небытия, а по сути от гибели, вознамерился оттеснить своего друга от кормила власти и стать новым вождем. С этой целью он, используя свое возросшее влияние, стал потихоньку отжимать власть у партии. Требовал у Хрущева передать в ведение армии пограничные войска, войска МВД и КГБ, запретил начальнику главного политуправления А.Желтову информировать ЦК обо всем, что происходит в войсках. В конце концов приказал начальнику ГРУ Штеменко в абсолютной тайне готовить в Подмосковье команду спецназовцев-головорезов. Удайся Жукову заговор, СССР, не исключено, стал бы государством военной диктатуры.

По некоторым данным, Хрущеву повезло. Неприметный чиновник Буланов, ответственный за партийные взносы, по чистой случайности заподозрил неладное с этим законспирированным полком спецназа и донес Хрущеву. Никита Сергеевич информацию проверил и понял: если не принять срочные меры против Жукова, тот власть возьмет.

Нужно признать, что Хрущев в то время в аппаратной игре дураком не был и сумел переиграть Жукова. Не выдав себя, Хрущев обласкал Жукова: мол, Константиныч, выручай, сплавай в Югославию к Тито, поговори с ним, только ты сможешь его убедить поддержать нас в трудное время, не нужно ему заигрывать с капиталистами. А мы тебе, мол, кораблей в эскорт дадим сколько нужно. И Жуков купился. Одним из сопровождающих Жукова был тот самый товарищ Буланов.

Через некоторое время после начала визита в Югославию корабли по команде Хрущева ушли – Жуков узнал об этом в последний момент. Примчался в Кремль, а там высокие товарищи его от должности министра обороны уже освободили. Так как операция была продумана, никто за Жукова вступиться не успел. Танки остались в боксах.

Хрущев торжествовал. На радостях провел фестиваль молодежи со всего мира, запомнившийся всплеском в Москве венерических заболеваний, взорвал на Новой земле «Кузькину мать» в 53 мегатонны, запустил Гагарина в космос, вспахал целину. Разместил ракеты на Кубе, что едва не привело мир к ядерной войне. Ударился в кукурузоразведение. И пообещал полуголодному народу коммунизм к 1 января 1980 года.

Но так как с экономикой в Стране Советов было неважно, Хрущев решил повысить благосостояние народа за счет выкачивания из недр нефти и продажи ее богатеньким буржуям. Одна беда: советская промышленность не могла выпустить трубы большого диаметра – это умели делать немцы из ФРГ, которых мы победили. К слову, советская промышленность не могла выпустить и достойные легковушки, холодильники, телевизоры, магнитофоны, обувь и одежду, прочие товары ширпотреба. Не могла произвести достаточно колбасы, мяса, молока, сметаны и прочего. Только танков, бронемашин, самолетов, пушек, подводных лодок у нас было с избытком.

Народ, измученный войной, по-прежнему жил плохо. Ждал, пока товарищи из Кремля уломают капиталистов продать нам необходимые трубы, чтобы качать на Запад нефть.

Хрущева триумфы в Космосе, в ракетостроении, в ядерной области вознесли так, что он перестал чувствовать землю под ногами. Стал настоящим вождем. Самовлюбленным и не терпящим возражений. И не заметил, как окружение стало шептаться. А если окружение начинает шептаться, значит, на горизонте замаячил новый вождь. Его имя известно всем – Брежнев. Лидер застойного времени, герой анекдотов и отец беспутной дочери Галины. Просто хороший человек.

Осенью 1964 года Хрущева, превратившегося в Нарцисса, сместили, вызвав из Пицунды, где он расслаблялся после праведных трудов. В результате заговора его даже не убили – до самой смерти в 1971 году он под присмотром КГБ выращивал помидоры на даче. Это говорит о том, что Брежнев был человеком добрым, даже душевным. Правда, восстание в Чехословакии подавил. Но это любя, переживая за тамошний пролетариат, власть из рук которого хотели вырвать буржуи.

Брежнев взял власть вовремя. Как раз осенью 1964 года западные немцы продали СССР необходимые трубы. И на Запад пошла нефть. Казна стала стремительно пополняться нефтедолларами. Уровень жизни советского народа стал расти. И он поверил, что коммунизм не за горами. Еще немного, еще чуть-чуть... Догоним и перегоним. Всех. И будет нам простое коммунистическое счастье. От каждого – по возможностям, каждому – по потребностям.

Достиг ли его СССР во главе с новыми вождями? Об этом читайте в следующем номере.

РЕЗОНАНС

# «После выхода из тюрьмы мужа не взяли на работу даже дворником»

С болью и тоской прочла последнее слово бывшего председателя правления Белкоопсоюза **Сергея Сидько.** С болью – за очередную жертву «успешной работы по борьбе с коррупцией», с тоской – оттого, что за державу обидно, что творится такой беспредел и вседозволенность. Страшно даже представить, что почти сутки в квартире людей, еще ни в чем не обвиненных, чинился дикий погром. Ломали, крушили, выворачивали в поисках меченой тысячи долларов. Которую так, кстати, и не нашли.

Почти 10 лет назад по такому же сценарию (пресловутый оперативный эксперимент) в одночасье рухнула спокойная и счастливая жизнь нашей семьи. Мой муж **Анатолий Радионенко** в то время работал в Барановичском горисполкоме в должности начальника управления архитектуры и градостроительства. Он был главным архитектором города. Я – пенсионерка, бывший педагог по классу фортепиано. У нас двое сыновей и скромная квартира в большом доме. Муж проработал 19 лет, на протяжении которых на него не пала даже тень подозрения в противоправной деятельности! Правда, из-за своей принципиальности и неподкупности он не особо ладил с руководством. Дважды его увольняли по надуманным основаниям, а он, упрямый, восстанавливался через суд. А такое не прощается...

И вот в отношении него решили провести оперативный эксперимент, так сказать, «проверку на вшивость». Для реализации плана взяли наемного провокатора, прикинувшегося богатым предпринимателем, который через знакомых нашел выход на моего мужа, при помощи которого якобы собрался получить участок земли, естественно, намекнув, что собирается щедро рассчитаться.

Но дело в том, что вопрос выделения земельных участков не входил в должностные обязанности моего мужа, для решения такого вопроса в каждом исполкоме существует землеустроительная служба. Но разве такая мелочь может помешать посадить неугодного? Состряпали «функциональные обязанности», в которые незаконно включили пункт «Выбирает и предоставляет земельные участки под все виды строительства». Денежные фальшивки, предложенные моему мужу в качестве благодарности, были им тут же разоблачены, поскольку он ни у кого ничего не просил, он понял, что это провокация, но ничего не успел сделать. В гараж, куда он заехал по делу и где ему сунули доллары, немедленно ворвались оперативники. Схватив обратно свои бумажки, они устроили дикий погром в гараже, а затем, уже после ареста мужа, взятого якобы с поличным, произвели обыск в квартире – примерно такой же, как в квартире Сидько. Что искали – толком не объяснили, буркнули только: «ценные бумаги, деньги, золото, бриллианты». Естественно, ничего не нашли, но, уходя, оскорбили: мол, успела спрятать. А прятать было нечего. Ценные бумаги – это наши с мужем грамоты и похвальные листы за отличную учебу наших детей, золото – это два обручальных кольца да золотая медаль нашего младшего сына, а бриллианты – это наши дети и внуки.

Эта дикая «взятка» – единственный эпизод в уголовном деле, хотя на этапе предварительного следствия были опрошены около 200 предпринимателей, причем допросы проводились с пристрастием, типа «если не признаешься, что носил взятку архитектору, разгромим все твои торговые точки».

И тем не менее приговор был суров: 6,5 года лишения свободы с конфискацией имущества и лишением права занимать определенные должности сроком на 5 лет. Последнее могли бы и не вменять, поскольку после выхода из тюрьмы мужа не взяли на работу даже дворником на станцию переливания крови, куда он пошел по объявлению в газете. Был архитектором, а стал изгоем с волчьим билетом...

Радует только то, что его не смогли сломать морально. С первой минуты ареста и по сей день мы с мужем ведем неравную борьбу за справедливое решение, за оправдание. Выйдя из тюрьмы через 3,5 года, он собрал все необходимые доказательства своей невиновности и непричастности к преступлению, навязанному ему провокационным путем. В феврале 2010 года Генеральной прокуратурой Республики Беларусь по его жалобе был вынесен протест на обвинительный приговор в связи *«с отсутствием состава преступления»*.

Но судами протест отклоняется по каким-то надуманным основаниям. Плевать на растоптанную, оскверненную жизнь какого-то мелкого чиновника, главное – сохранить лицо и честь мундира наших доблестных борцов с коррупцией. И вот что характерно: «неприкасаемые» не занимаются отловом мелкой рыбки, это удел службы МВД, тут идет охота на «крупную дичь», так, чтобы сразу – «громкое дело» и, соответственно, повышение по службе, награды и так далее, одним словом, полное создание видимости успешной работы по борьбе с коррупцией. И никто не в состоянии остановить эту дикую охоту королей страха.

В общем, прочитала текст про Сергея Сидько, вспомнила свою боль... Очень хочу через газету «Народная Воля» обратиться к жене экс-главы Белкоопсоюза Сергея Сидько.

*Уважаемая Татьяна Ливерьевна!*

*Мужайтесь! К сожалению, мы стали теми, кто, как теперь принято говорить, попал под раздачу. Почему именно мы? Увы, нам не дано это узнать – слишком уж все засекречено. И хотя борьба почти бессмысленна – боритесь, несмотря ни на что и вопреки всему!*

**С уважением –**

**Тамара РАДИОНЕНКО, жена бывшего главного архитектора г.Барановичи.**

